АМБИЦИИ

## Кто поедет на «Евровидение»?

Представлять Беларусь в Афинах желают аж 60 человек. Среди них не только такие белорусские исполнители, как **Полина Смолова, Жанет, Гюнешь Абасова, Ирина Дорофеева, Александра Гайдук,** группа **"Лявоны"** и многие другие, но и полька **Малгожата Анджиевская**, российская певица **Просто Мария** и испанская группа **"Альтернатива"**.

*10 февраля* финалистам конкурсного отбора предстоит исполнить свои конкурсные композиции в прямом эфире Первого национального телеканала; тогда же по итогам голосования будут выбраны три победителя. Последний отборочный конкурс состоится *24 февраля*, когда жюри во главе с профессором **Михаилом Финбергом** выберет представителя Беларуси и его дублера.

Организацией белорусского отборочного тура конкурса песни "Евровидение-2006" занимаются Белтелерадиокомпания и Министерство культуры.

**Евелина КРУПЕНЬКИНА.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## Без голоса

**остался вокалист и композитор популярной группы "Атлантика" Алекс Дэвид.**



В первую неделю после Нового года музыканты слишком много выступали. А Новый год и вовсе встречали на капоте автомобиля по дороге на очередной концерт. Возможно, именно холодное шампанское, выпитое на морозе, дало толчок болезни. *"По натуре я не очень болезненный человек, но и не морж,* — говорит Алекс Дэвид. — *Я долго не обращал внимания на легкое недомогание, много ездил, в конце концов меня просто свалило с ног и я лишился голоса".*

Врач, осмотревший музыканта, заявил, что если певец выдержит постельный режим и будет вовремя принимать лекарства, то все будет хорошо. Правда, в ближайшие пару недель петь солисту "Атлантики" противопоказано. Поэтому все январские выступления группы, а также запись новых песен перенесены на февраль.

**Ядвига РУТКОВСКАЯ.**

ЗА КУБАЧКАМ КАВЫ З МАРЫНАЙ КОКТЫШ



*Паліна СМОЛАВА:*

# «Я раблю сябе сама...»

*"Ну што цікавага табе можа сказаць гэтая 25-гадовая дзяўчына? — пыталіся ў мяне, калі я рыхтавалася да інтэрв'ю са спявачкай Палінай Смолавай. — Яна, напэўна, ні разважаць, ні распавядаць яшчэ не ўмее!"*

*З уласных назіранняў магу сказаць, што за словам у кішэню Паліна не лезе. На пытанні адказвае з той шчырасцю і прамалінейнасцю, якой падчас так нестае многім зоркам беларускай эстрады!*

*Паліна не баіцца выказваць СВАЁ меркаванне і паказацца такой, якая яна ёсць.*

**— Калі гаворка заходзіць пра спявачку Паліну Смолаву, некаторыя чамусьці раздражнёна крывяць нос: *"Фу, яна такая вульгарная, разбэшчаная, пагардлівая, у ёй няма чысціні, яна гатова на ўсё, каб быць зоркай, у яе наогул пік зорнай хваробы"*. Адны называюць Вас *"залатым голасам беларускай эстрады"*, а другія кажуць, што ёсць галасы значна лепшыя. Як Вы ставіцеся да такіх заўваг і наколькі яны, па-Вашаму, справядлівыя?**

— Я не ведаю ніводнага чалавека, пра якога гаварылі б толькі прыемныя рэчы. Такога няма. І гэта нармальна. Адны ў захапленні ад мяне, другім я не падабаюся, а трэціх — раздражняю, таму што яны... падсвядома мне зайздросцяць, але баяцца нават сабе ў гэтым прызнацца. Зайздросцяць, бо за даволі кароткі час я столькі ўсяго паспела! Многія не верылі, што ў Беларусі можна амаль імгненна так узляцець, стаць вядомай...

А наконт вульгарнасці... Не думаю, што на сцэне я так выглядаю. У жыцці ў некаторых выпадках я магу быць яшчэ больш вульгарнай...

**— А што Вы ўкладваеце ў гэтае паняцце?**

— Ну, напрыклад, вульгарна, калі разам з чырвонымі батфортамі апранаюць кароткую зялёную спадніцу, з-пад якой выглядае белая споднняя бялізна. Але вульгарнасць можа быць не толькі знешняя, але і ўнутраная. Калі, скажам, чалавек гаворыць, не разумеючы пра што. Не выключаю, што тыя, хто называе мяне *вульгарнай*, проста не могуць дазволіць сабе выглядаць у жыцці так, як я выглядаю на сцэне, але падсвядома прагнуць гэтага. А можа, яны самі яшчэ больш вульгарныя, чым я?..

**— Ну а наконт зорнай хваробы?**

— На мой погляд, зорная хвароба здараецца ад недахопу выхавання. Мне бацькі заўсёды гаварылі: кім бы ні стала, павінна памятаць, што ты такі ж чалавек, як і ўсе астатнія. Мяне вучылі не зайздросціць: калі хочаш нечага — дасягні. Я дапамагаю тым, хто просіць мяне аб гэтым (сама ніколі не навязваюся). Мне здаецца, гэта даволі простыя ісціны... Да таго ж людзі залежаць ад свайго становішча ў грамадстве, ад статусу. Напрыклад, я не магу сёння скакаць на школьнай дыскатэцы і пры гэтым камфортна сябе адчуваць. Па-першае, мне гэта не цікава, а па-другое, я — зорка і павінна трымаць адпаведны ўзровень, марку.

**— Ад вядомых людзей заўсёды чакаюць нейкіх учынкаў. У мінулым годзе Вы сталі *"Мінчанкай года"*. Не было жадання адмовіцца ад гэтага звання? Не няёмка было яго атрымоўваць? Напрыклад, той жа Расціслаў Янкоўскі стаў "Мінчанінам года" некалькі гадоў таму, аднак калі параўнаць ягоны ўнёсак у беларускую культуру і Ваш, то...**

— Для мяне самой гэтае званне было самым сапраўдным сюрпрызам! Магчыма, у параўнанні з кімсьці я насамрэч зрабіла няшмат. Але і нямала. Ведаеце, я да сваіх перамог вельмі доўга ішла. Не два гады, як нехта думае, а ўсё жыццё. І для мяне яны вельмі важныя. Дый калі мне прысудзілі званне, чаму я павінна ад яго адмаўляцца? Недарэчна адхіляць шанцы, якія прадастаўляюцца ў жыцці. Можна згубіць час, а потым табе больш ніхто і нічога не прапануе...

**— Пасля таго як летам мінулага года на начной дыскатэцы Вы таньчылі разам з Аляксандрам Рыгоравічам, пайшлі чуткі, што ён да Вас неабыякавы. І што нібыта Гран-пры на "Славянскім базары" Вам аддалі менавіта па жаданні кіраўніка дзяржавы... Ведаю, што Вас асабіста запрасілі і на навагодні вечар, які Лукашэнка ладзіў для вышэйшых службовых асоб...**

— Па-першае, на той дыскатэцы прэзідэнт не толькі са мной таньчыў, але і з іншымі дзяўчатамі. А па-другое, Гран-пры я выйграла самастойна. Што тычыцца першага студзеня, то я не толькі танцавала з кіраўніком дзяржавы, але і сядзела разам з ім за адным сталом. За гэтым сталом былі таксама і гімнасткі, што занялі пераможныя месцы на прэстыжных спартыўных спаборніцтвах. Добра, калі побач з прэзідэнтам прыгожыя дзяўчыны, якія нешта зрабілі для краіны.

**— Але ж Аляксандр Рыгоравіч — жанаты чалавек...**

— Усе ведаюць, што ягоная жонка на падобных мерапрыемствах не прысутнічае. А калі прэзідэнта аб гэтым пытаюцца, ён жартам адказвае: маўляў, усе жанчыны Беларусі — мае жонкі. На мой погляд, ён прыемны мужчына, з ім цікава весці гаворку...

**— Аднак пра Лукашэнку і іншае кажуць: мае дачыненне да знікнення вядомых палітыкаў...**

— Я ў палітыку ніколі не лезла, не лезу і не буду лезці.

**— Аляксандр Саладуха калісьці з гонарам распавядаў журналістам пра тое, як Аляксандр Рыгоравіч з акардэонам у руках спяваў у сябе на дачы знакаміты хіт "Чужая мілая"...**

— Кіраўнік дзяржавы не толькі песні Саладухі ведае. Ён спявае і маю "П'яную вясну", і іншыя песні. Прычым не проста падпявае, а добра ведае ўсе словы! Гэта гаворыць пра тое, што ён цікавіцца, сочыць за творчасцю выканаўцаў. На памяць ведае амаль усе песні Абадзінскага — гэта ягоны любімы артыст. Увогуле, ён вельмі музыкальны чалавек. На навагодняй вечарыне ніхто з вышэйшых службовых асоб не спяваў і не таньчыў так актыўна, як ён.



**— Паліна, а як Вы ставіцеся да таго, што некаторых беларускіх выканаўцаў ("Нейра Дзюбель", Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч) уключылі ў так званы "чорны спіс"? Негалосным загадам іх песні і кліпы забаронена пускаць у тэле- і радыёэфір...**

— Гэта добрыя музыканты, у іх свой адметны стыль. Шкада, што з іх творчасцю знаёмыя няшмат людзей.

**— Скажыце, а ў шоу-бізнесе прынята адзін аднаму дапамагаць, падстаўляць плячо? Райманд Паўлс нядаўна сказаў, што свет мастацтва не многім чысцей за палітыку...**

— У адрозненне ад расійскага, у беларускім шоу-бізнесе яшчэ не ўсё так брыдка... Беларускія артысты сябруюць паміж сабой, а расійскія падчас нагаворваюць адзін на аднаго... Праўда, я нядаўна прыйшла на Беларускае тэлебачанне ў якасці вядучай і адразу адчула там такую варожую атмасферу, у параўнанні з якой наш шоу-бізнес — рай! Ды і не так у нас шмат зорак, каб сварыцца.

**— Нядаўна Алеся Ярмоленка заўважыла: маўляў, крок нельга зрабіць, на сцэну палезлі сімпатычныя дзяўчыны ўсіх прафесій — ад сакратара да бухгалтара... Вас палохае канкурэнцыя?**

— Не ўсіх тых, хто спявае, магу назваць сваімі калегамі. Напрыклад, я не адразу разабрала тэксты песень, якія спяваюць спартсменкі Вольга Барабаншчыкава і Наталля Пальчэўская. Але ніхто не можа забараніць ім выходзіць на сцэну. Яны хочуць спяваць і робяць гэта. У кожнага артыста ўласная ніша. Спявай свае песні, не зайздросці нікому, не капіруй іншых, працуй над сабой і цябе чакае поспех...

**— Шмат размоў ходзіць пра Вашыя няпростыя адносіны са спявачкай Гюнеш Абасавай. Быццам бы пасля "Славянскага базару" Вы не з'яўляецеся на адных і тых жа тусоўках, пазбягаеце публічных сустрэч...**

— З тымі, з кім у мяне склаліся нацягнутыя адносіны, я вырашаю толькі дзелавыя пытанні, і тады нацягнутасць сама сабой некуды знікае. Да Гюнеш я стаўляюся гэтаксама, як і да іншых артыстаў. Яна мне не сяброўка, не прыяцелька. Мы проста калегі, разам працуем у тэатры. Разумееце, пасля "Славянскага базару" адбыліся пэўныя рэчы, пасля якіх я перастала давяраць гэтаму чалавеку. Я прачытала некалькі артыкулаў з яе выказваннямі... Лічу, што падобныя праявы злосці, зайздрасці — гэта недахоп выхавання. Некаторыя людзі могуць справіцца з негатыўнымі пачуццямі, а некаторыя — не. Апошнім магу параіць толькі адно: вучыцца ніколі не позна. Колькі мы жывём, столькі і вучымся. Калі гэтага не зразумець, зайздрасць разбурыць арганізм. І душу.

**— Вы канфліктны чалавек?**

— Тэмпераментны і запальчывы. Таму спачатку думаю, а потым гавару, часта спыняю сябе літаральна на паўслове. Увогуле, я стараюся як мага менш рабіць дрэннага, каб яно потым не вярнулася. Яшчэ не люблю, калі мяне абгаворваюць.

**— Значыць, на крытыку балюча рэагуеце?**

— Вельмі! Я спрабую яе ўспрымаць, хаця не люблю, калі мне кажуць нешта дрэннае ў той момант, калі я не хачу і не прашу гэтага.

**— У мінулым годзе Вы хацелі прадстаўляць Беларусь на "Еўрабачанні" і сталі пераможцам глядацкага галасавання нацыянальнага этапу конкурсу, аднак па рашэнні журы ва Украіну паехала Анжаліка Агурбаш. Скажыце шчыра: крыўда засталася?**

— Яна была ў першыя дні. А потым я зразумела, што ўсё, што ні робіцца, — да лепшага. У гэтым годзе я таксама буду спрабаваць паехаць ад Беларусі на "Еўрабачанне". Калі не атрымаецца зноў... Магчыма, Боженька проста беражэ мяне ад таго, што там можна адбыцца, і таму вышэйшыя сілы адварочваюць мяне ад гэтай дарогі...

**— Дарэчы, аб дарогах. Неаднойчы чула такое меркаванне: трэба выдаліць з эфіру ўсю "старызну" — "Сяброў", "Песняроў" і ўсіх тых, хто ўжо ледзь не стагоддзе на эстрадзе, — і даць дарогу маладым смолавым...**

— На мой погляд, усё, што сёння ёсць на эстрадзе, мае права на жыццё. Ну як выдаліць "Сяброў", "Песняроў", Паплаўскую з Ціхановічам? У кожным з іх ёсць свая чароўнасць, свой магнетызм, у выніку — свае прыхільнікі. Калі застанецца адна моладзь, усім будзе млосна і моташна.

**— Цікава, а якой Вы бачыце сваю будучыню?**

— Я не жадаю быць спявачкай, якая выходзіла на сцэну толькі год-два-тры... Хачу працаваць, хачу развівацца, хачу, каб былі новыя песні, кампазітары, каб беларускі шоу-бізнес развіваўся.

**— Вы гаворыце пра беларускі шоу-бізнес, аднак у Вас вельмі мала песень на мове. Можа, Вы, як і "народны артыст" Руслан Аляхно, лічыце, што *"на беларускай мове размаўляюць толькі старэнькія дзядулькі і бабулькі ў вёсках"*?**

— Я вельмі люблю беларускую мову! І размаўляю на ёй. Мару, каб мае дзеці хадзілі толькі ў беларускамоўную школу. І зраблю ўсё, каб гэта было так.

**— А Вы ведаеце, што сёння беларускамоўныя школы ў тым жа Мінску можна пералічыць па пальцах?**

— Спадзяюся, іх будзе больш.

**— Шмат хто сцвярджае, што на Беларусі няма шоу-бізнесу...**

— Ёсць!

**— ...Што артысту тут немагчыма зрабіць добрую кар'еру...**

— Так лічаць толькі слабыя людзі.

**— ...Што няма людзей, якія здольныя ўкладаць грошы ў раскрутку зорак...**

— Магчыма. Бо ў нас не зусім гэта акупляецца, але я заўсёды сама сябе фінансую. Няпраўда, што ў мяне тата-мільянер, альбо палюбоўнік-алігарх. У маёй сям'і — дастатак крыху вышэй за сярэдні. Мой бацька заўсёды працаваў у трохчатырох месцах, каб мы з матуляй ні ў чым сабе не адмаўлялі. Свае першыя ганарары я траціла на тое, каб набыць нейкі касцюм, зрабіць укладку. Зараз я добра зарабляю сама, але, у адрозненне ад іншых, я і ўкладваю гэтыя грошы ў сябе. А тыя, хто кажа, што тут немагчыма працаваць... Яны яшчэ не былі ў Маскве!

**— А Вам хочацца пакарыць Расію? Спяваць не ў "Сярэбраным", а ў "Залатым грамафоне"?**

— Канешне. Хачу паспрабаваць свае сілы ў конкурсе "Новая хваля" — гэта шанц, што мяне заўважаць у Маскве.

**— У Расіі чамусьці лічыцца, што большасць сучасных спявачак — дурныя як боты. Як правіла, для іх галоўнае засвяціцца на экране, выканаць песню-аднадзёнку...**

— Розныя спявачкі ёсць, але я лічу, што неразумных жанчын не бывае. Магчыма, нехта прыгожа думае, але не можа выказаць свае пачуцці. Усялякае здараецца...

**— А можа здарыцца так, што Паліна Смолава завядзе раман з кампазітарам ці рэжысёрам, каб атрымаць, скажам, добрую песню ці кліп?**

— На маю думку, секс — гэта не зусім правільны пачатак кар'еры. Тым больш у мяне хапае грошай, каб набыць сабе песню...

**— Пасля святаў многія Вашы калегі з гонарам распавядалі пра тое, колькі канцэртаў паспелі даць за навагоднюю ноч. Аднак ніхто нават і намёкам не сказаў пра свае ганарары. Ад чаго залежыць цана артыста?**

— Звычайна кожны называе сваю суму ганарару. У нас з дырэктарам такая палітыка: мы ўкладваем пэўныя грошы ў песню, касцюмы і, натуральна, спрабуем іх кампенсаваць і крыху зарабіць. А цана артыста перш за ўсё залежыць ад яго самога. Ад таго, як ён выглядае, як апрануты, як сябе паводзіць, якія песні спявае. Нават ад таго, наколькі ён цікавы чалавек.

**— Можна сказаць, што Смолава — адна з самых дарагіх спявачак Беларусі?**

— Напэўна, так...

**— Нядаўна ў інтэрв'ю "Московскому комсомольцу" артысты "Хору Турэцкага" шчыра расказалі, што ім перад выступленнем неабходна добра выспацца і што за суткі перад канцэртам яны стараюцца не займацца сексам. Каб захаваць лібіда. У Вас ёсць нейкія падобныя прыбамбасы?**

— Я не абмяжоўваю сябе ні ў чым. А мужчынам, якія займаюцца акадэмічным вакалам, перад канцэртам сапраўды рэкамендуецца ўстрымацца ад сексу.

**— У кожнай сапраўднай зоркі павінен быць хоць адзін звар'яцелы фанат...**

— Прыхільнікаў у мяне шмат. Нехта са мной фатаграфуецца, нехта просіць аўтограф. Але адзін з іх вельмі настойлівы. Ён лічыць, што ўсе мае песні напісаны толькі для яго, закідвае маю электронную скрыню рознымі паведамленнямі, у сваіх лістах забараняе мне апранаць адкрытыя сукенкі, гаворыць, што мы павінны выхаваць з ім сына Аляксандра і ўнука Яраслава, апошнім часам перайшоў на пагрозы... Гэты чалавек мяне палохае, таму ім ужо займаюцца праваахоўныя органы...

**— Жудасная гісторыя! Давайце лепш пра прыемнае... У мінулым годзе Вы казалі, што вось-вось адбудзецца Ваша вяселле...**

— Пакуль не хапае часу.

**— Ваш каханы прызнаўся, што хоча мець траіх дзяцей...**

— І я таксама! Вельмі люблю дзяцей. Праўда, я хачу спачатку замацаваць сваю кар'еру, а потым стаць маці.

**— Аднойчы Вы ўжо былі замужам. Чаму распаўся шлюб?**

— Таму што мы былі маладыя. На мой погляд, жанчына падрыхтаваная да сямейнага жыцця ў любым узросце, а мужчына... Спачатку ён павінен знайсці сябе ў працы, у жыцці, у грамадстве, вельмі добра пагуляць, атрымаць асалоду ад жыцця, каб потым з усім задавальненнем зразумець і адчуць сваю жанчыну. Толькі тады ён будзе берагчы і шанаваць яе, наколькі гэта магчыма. З першым мужам мы часта сварыліся, у нас не было ўзаемаразумення, павагі адзін да аднаго. Таму мы вырашылі не марнаваць час, здароўе і нервы, а разысціся. Некаторы час пасля разводу мы працавалі разам, а пасля я зразумела, што трэба сыходзіць назаўсёды. Раней ён вельмі раўніва глядзеў на мае крокі да папулярнасці, не падтрымліваў мяне ў маіх пачынаннях. Я лічу, што мы абодва вінаватыя. Паспяшаліся, не падумалі. Я выйшла замуж у 20 гадоў, наш шлюб доўжыўся два з паловай гады. Расставанне для мяне было вельмі балючым. Незалежна ад таго, любіш, ненавідзіш, гатовы забіць — расставанне заўсёды балюча. Бо гэта пэўны кавалак твайго жыцця... Але разбітай чашы не склеіш. А калі і склеіш, існуе верагоднасць таго, што яна зноў разваліцца... Я такі чалавек, што калі нешта зрабіла, то заўсёды буду памятаць аб гэтым. Усё магу дараваць, але многія рэчы проста не магу забыць...

**— Нехта заўважыў: *"Паліна Смолава заўсёды прыходзіць у рэстаран з уяўнай каронай Міс Гламур на галаве. І на публіцы трымаецца больш упэўнена за іншых"*. Адкуль у Вас такая ўпэўненасць у сабе?**

— Я раблю ўсё для таго, каб быць упэўненай.

Не плачу, што ў мяне з'явіліся лішнія кілаграмы, а іду ў спартыўную залу і займаюся там дзве гадзіны. Потым — на масаж і іншыя працэдуры. У мяне прыгожае цела, я сачу за ім, і таму — упэўнена ў сабе.

Я не проста памыю галаву, а пайду да свайго цырульніка, зраблю прыгожую прычоску і... я зноў упэўнена ў сабе!

Нейкія свае недахопы схаваю, а прывабнасці, наадварот, прадэманструю. Апрану прыгожую сукенку — і я ўпэўнена.

Я раблю сябе сама...

ЗНАЙ НАШИХ!

# Мэтр с кепкой

*Артист из Беларуси **Серега** не только разрабатывает дизайн головных уборов, но и осваивает выпуск украшений из драгоценных камней. Об этом он рассказал в интервью российской прессе. Вот некоторые выдержки из этой беседы.*

### Золотой «Бумер»

**— Расскажи о своих привычках, какой ты по характеру. Такой же боевой, как на сцене и в клипах?**

— У меня очень сложный характер. Любая мелочь может вывести из себя. Если меня кто-то узнал на улице и отнесся без должного уважения, меня это раздражает. Бывали случаи, когда люди смотрели на меня с таким выражением лица, как будто у них последняя стадия базедовой болезни, показывали пальцем и на всю улицу орали: "О, Серега!" Хотелось чем-то тяжелым кинуть...

**— Но ты ограничивался лишь матерными ругательствами?**

— Я перестал ругаться матом около двух с половиной лет назад. Вы можете спросить любого человека из моего окружения — от меня мата никто не слышал.

**— Признайся, где тебе работать комфортнее: в Беларуси или в России?**

— Там, откуда я родом, шоу-бизнеса вообще нет. Если мы говорим о российском шоубизе... Мне кажется, он, как бы это сказать... сермяжный. Как и сама Россия. Есть правила и законы, но они не работают. Делаешь что-то, а все равно по-другому получается. Короче, дикий Восток...

### «Одеваюсь дорого, но бесплатно...»

**— Расскажи, чем еще, кроме музыки, занимаешься?**

— Так получилось, что, кроме артиста Сереги, я еще и продюсер Серега, сам себе инвестор, композитор и так далее. Времени чем-то еще заниматься нет. Раньше вот занимался дизайном.

**— И что же ты "дизайнерил"?**

— Делал кепки. Для себя. Конечно, я ничего не чертил и не рисовал — я объяснял помощникам на пальцах, потому что у меня с рисованием так же, как у Остапа Бендера. Так я создал гламурные кепки. Из меха. Сейчас у меня кепка-фаворит — из черной ангоры, похожая на бейсболку. Главная цель кепки — борьба за внимание...

**— Теперь понятно, почему ты кепки почти не снимаешь...**

— Ага, и все думают: может, он лысый или некрасивый без кепки?.. У каждого человека своя фишка: у Николаева усы, которые он не сбривает, у Сереги — кепка. Кроме того, кепка мне помогает быть незаметным. Чтобы затеряться в толпе, мне достаточно ее снять. И люди начинают сомневаться: а Серега ли это? Чем-то похож, а вроде и нет. А с одеждой в целом мне сейчас проще: я в России являюсь лицом гламурной американской марки. Это ведущая марка в хип-хопе, поэтому одеваюсь я дорого, но бесплатно.

### «Мое достоинство больше, чем на фото...»

**— Расскажи, с кем из российских артистов нашел общий язык?**

— Да со всеми. Когда на концертах встречаемся, всегда здороваемся и руки пожимаем. Хотя ситуацию, конечно, осложняет то, что я рэпер, а рэперы у нас в стране (сейчас я говорю о России, потому что провожу здесь львиную долю времени) стоят особняком. Мне надо еще доказать, что со мной можно нормально общаться. Кроме того, чтобы дружить с российскими звездами, надо в России родиться. А поскольку я, как говорится, из грязи в князи попал, мне сложнее. Но вообще отношения хорошие со всеми. Мне даже Лев Лещенко жмет руку. И София Ротару всегда выражает респект.

**— Слышала историю, что ты отказался поехать на премию МУЗ-ТВ, потому что обиделся на сюжет, в котором сказали, будто ты снялся в порнофильме.**

— Я не готов подтвердить, что не поехал получать премию именно из-за этого. Но сплетня такая действительно прошла. Поскольку я в порно не снимался, мне было немножко неловко перед моими зрителями. Но самое обидное оказалось в Интернете. Они к этой новости присобачили изображение эрегированного мужского достоинства. Когда я увидел размер этого причиндала, я вообще обиделся: зачем они взяли фотографию такого маленького? Мой гораздо больше, и все об этом знают. *(Серега улыбается.)*

**— Еще слышала, будто ты дружишь с Лукашенко...**

— Это тоже из разряда слухов. Поговаривали, что Лукашенко подарил мне черный "Бумер". Но я его купил за свои кровные. По этому поводу в Беларуси даже анекдот ходит: после того, как Серега спел про черный "Бумер" и Лукашенко подарил ему машину, известный белорусский певец Кирилл Слука написал песню "Четырехкомнатная квартира в центре Минска".

### Прибамбасы топ-жизни

**— Кстати, твоя популярность позволила тебе уже заработать на виллу за городом и домик в Париже?**

— Я вот сколько ни читал интервью других артистов, никто из них честно не говорит о размере своих доходов. Но я скажу честно: я действительно являюсь топ-артистом. Я зарабатываю на уровне "топ" и могу жить "топ"...



**— На что же ты тратишь эти большие деньги?**

— Финансирую свое продвижение. Если надо снять клип, я беру деньги у себя. Сейчас начал выпускать драгоценности. Если посмотрите выступления повнимательнее — я хожу всегда с массивной золотой цепью с камушками. Это же все мне никто не дарит.

**Ульяна КАЛАШНИКОВА.**
**Фото Сергея ЧЕРВЯКОВА.**

ПА-ЗА ТАКТАМ

## *Аляксандр КУЛЛІНКОВІЧ: «Апошнім часам я шмат размаўляю з прэзідэнтам...»*

**Днямі ў Мінску адбыўся паўпадпольны канцэрт групы "Нейра Дзюбель". У бліжэйшы час у адным са сталічных клубаў чакаецца выступ "N.R.M".**

Нагадаем, што негалосная забарона на арганізацыю канцэртаў і выступленне шэрагу папулярных беларускіх музыкаў (у тым ліку і "Нейра Дзюбеля") пачалася пасля іх выступлення на плошчы Бангалор падчас мітынгу, арганізаванага дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў. Акцыя, дазволеная гарадскімі ўладамі, прайшла 21 ліпеня пазамінулага года пад лозунгамі *"Не — трэцяму тэрміну!"*, *"Свабода Марынічу!"* і іншымі. Але з тых часоў адміністрацыі канцэртных залаў, спасылаючыся на загад зверху, закрылі свае дзверы для музыкаў, што спявалі на плошчы. Хаця былі часы, калі кліпы таго ж "Нейра Дзюбеля" з задавальненнем круціла БТ.

Сёння даведацца пра выступленні тых, хто трапіў у так званы "чорны спіс", даволі няпроста. Інфармацыя пра канцэрт распаўсюджваецца праз электронную пошту і *SMS*-паведамленні, а месца выступлення называецца толькі пры асабістай сустрэчы. Нягледзячы на такія складанасці, напрыклад, на канцэрт "Нейра Дзюбеля" прыйшло больш за сто чалавек. Праўда, лідэр гурта **Аляксандр Куллінковіч** не задаволены апошнім канцэртам.

*"З аднаго боку, прыемна, што людзі прыйшлі на канцэрт па тэлефонных запрашэннях, а з другога — гэта даволі зневажальна,* — гаворыць спявак. — *І я не лічу гэты канцэрт падпольным — так яго чамусьці назвалі арганізатары.*

*Шчыра кажучы, не разумею, навошта камусьці трэба было пераўтвараць адносна апалітычныя групы і публіку, якой было напляваць на ўладу і не на ўладу, у нейкіх апазіцыянераў? Гэта маразм! Навошта паўсюль шукаць ворагаў, калі працей знайсці сяброў? Мы ж нікога не звалі на барыкады, а проста выказвалі свой пункт гледжання...*

*Мы некалькі разоў спрабавалі атрымаць гастрольнае пасведчанне, але нам яго не далі. Магчыма, я пацiху вар'яцею, аднак апошнім часам я шмат размаўляю з прэзідэнтам, як быццам бы ён мне прызначыў аўдыенцыю... Насамрэч я з вялікім задавальненнем сустрэўся б з Аляксандрам Рыгоравічам. А што рабіць — дрэнны ці добры, ён пакуль што кіраўнік дзяржавы, чалавек, які ўсё вырашае. Я хацеў напісаць яму ліст, аднак калегі адгаварылі мяне ад гэтага кроку. Мне многія кажуць: "Адбудуцца прэзідэнцкія выбары, Лукашэнка застанецца прэзідэнтам і гайкі адпусціць". Я ў гэта не веру. Калі вельмі моцна закручваеш гайкі ў нейкім механізме і ён пры гэтым плаўненька працуе, які сэнс ізноў туды лезці? А механізм, як мы бачым, добра працуе. Цудоўная група "Тяни-Толкай" спявае песню пра "Три тысячи шагов", па расійскім узоры здымаюцца навагоднія агенькі... Дык навошта гайкі адкручваць?.."*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

*Валянцін БЯЛЬКЕВІЧ:*

# «Зборная Беларусі — чэмпіён свету... па таварыскіх гульнях»

*Нядаўна адзін з лепшых футбалістаў у гісторыі суверэннай Беларусі, паўабаронца нацыянальнай зборнай нашай краіны Валянцін Бялькевіч даў інтэрв'ю сайту фан-клуба кіеўскага "Дынама". Прапануем чытачам "Народнай волі" самыя цікавыя ўрыўкі гэтай размовы.*

**— Валянцін, як твае родныя і блізкія аднесліся да пераходу ў кіеўскае "Дынама"? І як ты ўвогуле трапіў у каманду?**

— У маі 1996 года закончыўся чэмпіянат Беларусі. У мяне кантракт падыходзіў да канца. Мне паступіў шэраг прапаноў. Узрост у мяне быў пераходны, а мінскае "Дынама" асаблівых дасягненняў не мела, і, каб папоўніць клубны бюджэт, вырашылі прадаць шэраг вядучых футбалістаў.

Мне патэлефанавалі амаль з усіх маскоўскіх каманд. Патэлефанаваў таксама Рыгор Міхайлавіч Суркіс (прэзідэнт кіеўскага "Дынама" — **Рэд.**). Ён параіў не спяшацца, усё абдумаць... Я тыдзень думаў і схіліўся да таго, што кіеўскае "Дынама" будзе лепшым варыянтам. А як аднесліся да гэтага мае родныя? Свой першы кантракт я заключыў у 18 гадоў, ужо тады я сам сябе забяспечваў. Маці сказала: "Жыццё тваё — табе вырашаць".

**— Ці раіўся ты з кім-небудзь?**

— Не, за сябе я рашэнні прымаю сам. Прыслухоўваюся да чужога меркавання, але вырашаю сам.

**— Валянцін, скажыце, Вы не шкадуеце аб гадах, праведзеных у "Дынама"? Ці не ўзнікала жадання паспрабаваць свае сілы ў адным з вядучых еўрапейскіх чэмпіянатаў?**

— Паспрабаваць заўжды хацелася, але трэба рэальна глядзець на рэчы. Мы гуляем у Лізе чэмпіёнаў, у камандзе я на вядучых ролях. Калі б пераязджаў, то ва ўзросце да 28 гадоў. Хоць і былі прапановы, але я ўжо нікуды не хацеў пераходзіць. Гэта ж не 22—23 гады, калі ты можаш спрабаваць, а калі не складзецца — вяртацца назад. У Кіеве мяне ўсё задавальняе: каманда, атмасфера, горад, балельшчыкі. Дарэчы, пасля завяршэння кар'еры застануся жыць у Кіеве.

**— Па меркаванні беларускіх журналістаў, сёння тройка лепшых футбалістаў Беларусі выглядае так: Глеб, Коўба, Кутузаў. Цікава было б пачуць Ваша меркаванне аб перспектывах гэтых футбалістаў.**

— Спачатку пра галасаванне... Добра было б задумацца, хто і як галасуе. На мой погляд, выбар крыху няправільны. Не ў сэнсе персаналій, а ў самім прынцыпе галасавання. Я гэта заўжды казаў. 50 трэнераў! Адкуль? 16 капітанаў каманд — гэта зразумела. Няхай яшчэ 285 суддзяў, таксама зразумела. Але 116 журналістаў!? А газет у нас колькі спартыўных у Беларусі? Ды і неспартыўных... Ну 20, хай 30. Адкуль 116 журналістаў? Я маю на ўвазе, што ў галасаванні прымаюць удзел далёкія ад футбола людзі.

— А наконт тройкі футбалістаў скажу наступнае. Згодны, што адзін з самых моцных — Глеб. "Арсенал" проста так футбалістаў не купляе. Глеб — будучыня беларускага футбола. Коўбу я дрэнна ведаю. Ён там шмат часу не гуляў, пераязджаў. Тое, што яго назвалі адным з лепшых, для мяне — навіна. Я назваў бы другім Кутузава. Ён таксама будучыня беларускага футбола.



**— Вы прынялі рашэнне больш не выступаць за зборную Беларусі. Чаго, на Ваш погляд, не хапае нацыянальнай зборнай для паспяховага выступлення, каб быць на вядучых ролях, хаця б у адборачнай падгрупе?**

— Перамог не хапае (*смяецца*. — **Рэд.**). Можа, не шанцуе. Па меркаванні спецыялістаў, мы нядрэнна гуляем, але чагосьці нам не хапае. Як футбалісту мне цяжка сказаць. Гэта павінен трэнер разбірацца.

**— Вось кажуць, што Бялькевіч не хоча гуляць за зборную. Я прыязджаю і гуляю, як магу. Я не дзялю гульні — тая за зборную, гэтая за "Дынама". Я заўжды гуляю з поўнай самааддачай. Чамусьці, калі мы прайграем адборачны матч, — вінаваты Бялькевіч і Глеб. Адзін — з Кіева, другі — са "Штутгарта". Дык на полі 11 футбалістаў!**

— Я не магу сказаць, чаго не хапае. Я — футбаліст. Што мне трэнер гаворыць, тое я і раблю. А трэнер ацэньвае, дрэнна гэта ці добра. А за зборную больш гуляць не буду, таму што калі распачнецца чарговы адборачны цыкл, мне будзе 34 гады. Гуляць я яшчэ магу, сіл дастаткова. Вось толькі выступаць на некалькіх франтах адразу... Я аддаў зборнай больш за дзесяць гадоў. Пара саступаць дарогу маладым. У нас ёсць цудоўная моладзь, да таго ж наша зборная — чэмпіён свету па таварыскіх гульнях (*смяецца*. — **Рэд.**).

**БЛІЦ:**

**— Як Вы ставіцеся да жаночага футбола?**

— Раз-пораз гляджу з усмешкай на тое, як жанчыны забіваюць, а ў мужчын не атрымліваецца. Дарэчы, у жаночай зборнай Беларусі гуляе Алена Бялькевіч. Але мы не сваякі.

**— Ці сняцца Вам футбольныя сны?**

— Некалькі разоў сніліся дакладна.

**— Ці ёсць у Вас футбольная мара, якую не ўдалося ажыццявіць?**

— Я не згуляў і ўжо не згуляю на чэмпіянаце свету.

**— Колькі пакояў у Вашай кватэры?**

— Тры, магчыма, сціпла, але мне хапае.

**— Ці ёсць у Вас аўто?**

— Так, "Мерседэс".

**— Ці любіце Вы насіць гальштук?**

— Не. Касцюмы апранаю рэдка, у асноўным на ўсялякія ўрачыстасці.

**— Як Вы ставіцеся да крытыкі?**

— Мой дэвіз: "Сабака брэша — караван ідзе".

---

**ЗДАРЭННЕ**

## *Егер паранены пры спробе затрымання браканьераў*

**У Ляхавіцкім раёне пры спробе затрымання браканьераў атрымаў агнястрэльнае раненне 22-гадовы егер Навасёлкаўскага лясніцтва.**

Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС аблвыканкама, егер падчас абходу лясніцтва разам з двума калегамі выявіў чатырох браканьераў, якія спрабавалі збегчы. Падчас праследу адзін з браканьераў стрэліў з паляўнічай стрэльбы — у выніку егер атрымаў агнястрэльнае раненне шротам. На тэрыторыі Ляхавіцкага, Івацэвіцкага і Ганцавіцкага раёнаў быў уведзены план "Сірэна". У выніку праведзеных мерапрыемстваў следча-аператыўнай групай у вёсцы Навасёлкі Ляхавіцкага раёна, па месцы жыхарства, быў затрыманы 55-гадовы вясковец. У ім пацярпелы апазнаў мужчыну, які ў яго страляў. Таксама былі затрыманы яшчэ два "паляўнічыя" — 45 і 35 гадоў, якія цяпер змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання.

Пракуратурай Ляхавіцкага раёна распачата крымінальная справа па частцы 1 артыкула 14 (замах на злачынства) і частцы 2 артыкула 139 (забойства) Крымінальнага кодэкса. Егер накіраваны на лячэнне ў райбальніцу.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

---

**ШАШКІ**

### Бліц-47

Перад вамі заданні бліцконкурсу-47:

**№1. Белыя:** b6, c7, d6, e7, f2 (5). **Чорныя:** a5, d2, d4, f4, f8, g5, g7 (7).

**№2. Белыя:** b6, c5, c7, d6, e1, e7 (6). **Чорныя:** a5, c3, d2, f8, g5, g7 (6).

**№3. Белыя:** b6, c7, d6, e7, h4 (5). **Чорныя:** a5, c3, d2, d4, f8, g7, h6 (7).

**№4. Белыя:** a1, b6, c7, d6, e3, f2 (6). **Чорныя:** a5, b2, b4, c3, g7, h2 (6).

**№5. Белыя:** b6, c7, d6, e7, g3 (5). **Чорныя:** a5, b2, b4, c3, e3, f8, g7 (7).

**№6. Белыя** (Л. Жыхар): c1, c3, c5, d2, d4, e1, f2, g1, h2 (9). **Чорныя** (А. Бахонка): a5, a7, b6, c7, e7, f8, g5, g7, h8 (9). Партыя згуляна ў першай лізе завочнага чэмпіянату Беларусі (БПЛ-37).

Ва ўсіх пазіцыях белыя пачынаюць і выйграюць. Пераможцу чакае прыз кандыдата ў майстры спорту Леаніда ЖЫХАРА (г.п. Крывічы Мядзельскага раёна) — "Мой часопіс" П. Шклудава за 2002 год.

Тэрмін для адказаў — традыцыйныя два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск. вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**

### Розныя спаборніцтвы

У Ленінскім раёне г. Мінска прайшло першынство клуба "Ладдзя" па шашках-64. Прызавыя месцы занялі В. Анішчук, наш актыўны канкурсант В.Касцян і В.Тарасевіч. А першакласны рашальнік нашых заданняў Анатоль Пярхальскі не прайграў ніводнай партыі ў турніры свайго роднага аўтапарка г. Глыбокае. Яшчэ адзін карэспандэнт рубрыкі "Шашкі" "Народнай волі" Павел Каролік стаў пераможцам турніру ў Гомелі. Яго галоўнымі канкурэнтамі былі кандыдаты ў майстры спорту Васіль Жгельскі і Павел Шурыкаў. Па шашках-100 лепш за ўсіх выступілі майстры Андрэй Толчыкаў, Рыгор Кулагін і Вячаслаў Фейгін.

Пазнаёмцеся з павучальным фрагментам партыі:

**Белыя** (П. Каролік): b2, c3, d2, d4, e3, f2, f4, g1 (8). **Чорныя** (Ю. Ком): a5, b8, c7, d6, d8, g7, h4, h6 (8). 1. fg3 2. fe5 3. e:g5 4. g:g5 і "кукуеўская штучка" развалілася.

### Гульня з камп'ютэрам

Наша чытачка з Вілейкі Аляксандра КАМІНСКАЯ даслала заканчэнне, у якім знайшла нічыю ў гульні з камп'ютэрам — і даволі практычную:

**Белыя:** a5, e1, h2, дамка a1 (4). **Чорныя:** f4, g3, дамка c5 (3).

Прыводзім найбольш дакладныя хады за белых і чорных: 1. ab2 ca7 2. bc3 ac5 3. cd2 ca7 4. d:h6 ab8 5. h:f4 b:h2! 6. hg7 hg1 7. ed2 gc5 8. dc3 ca7 9. ge5 ac5 10. eh2 cg1 11. hb8 ga7 12. bf4 ac5 13. fh2 cg1 14. hg3 ge3 15. gh2 eg1!=. Памылкова 15 ... ec5 16. hg1x (гл. д. 61 "Курсу шашачных заканчэнняў" У. Маламеда і Ю. Барскага.

Шашачныя электронныя праграмы дапамагаюць А. Камінскай рыхтавацца да спаборніцтваў: зараз яна ўдзельнічае ў чэмпіянаце Беларусі па завочных шашках — у турніры БТР-40.

### Супаставім рашэнні

Праверце, калі ласка, рашэнні раней змешчаных пазіцый.

**"Спаборнічалі калектывы"**. Міні-конкурс-46 (Д. Камчыцкі): 1. dc5 b:f6 2. fe5 3. e:a3 ab6 4. ab4 hg5 5. fg3 6. g:e3 gh4 7. ef4x. Апазіцыя 2 на 2. Па-за конкурсам (М.Грушэўскі): g5, c7, d8, d6, a3x.

Першымі адказы прыслалі: Дзмітрый Камчыцкі (Магілёў), Марыя Лічко і яе ўнук Уладзімір Дубатоўка (вёска Возера Уздзенскага раёна), Уладзімір Сапяжынскі (Рагачоў), Пётр Шклудаў (Навапалацк), Анатоль Пярхальскі (Глыбокае), Леанід Жыхар (г.п. Крывічы Мядзельскага р-на), Часлаў Сінкевіч і Іван Працук (Паставы), Генадзь Логвінаў і Павел Каролік (Гомель), Мікалай Гардзіеўскі (Гродна), Мікалай Клязовіч (Жодзіна), Анатоль Чумакоў (Светлагорск), Уладзімір Сергіеня (п/а Войкава Уздзенскага р-на), Аляксандр Янчук і яго вучні Міхаіл Жук, Валерый Жук, Мікіта Кузьмін і Дзіяна Шаўчук (Камянец), Аляксандра Камінская (Вілейка), Аляксандр і Ігар Ашыхміны, Уладзімір Ціханаў (п/а Рудаўка Нясвіжскага р-на), Віктар Талкачоў (в. Уздзевічы Клімавіцкага р-на), Васіль Дзялендзік (Бабруйск), Вільям Астрынскі, Васіль Касцян, Альберт Нікіфараў, Аляксандр Сняжкоў і Сцяпан Супрунюк (Мінск) і іншыя.

### Задачы лаўрэата

Мы раней паведамлялі аб выніках 16-га Рэспубліканскага конкурсу па шашачнай кампазіцыі. Сёння разгледзьце задачы лаўрэата конкурсу гросмайстра Леаніда ВІТОШКІНА з Гомеля, якім галоўны суддзя спаборніцтваў даў наступныя характарыстыкі і ацэнкі:

**1.Белыя:** a1, b4, b6, g1, дамкі a5, c1, c5, d8, e3 (9). **Чорныя:** a3, a7, h2, h8 (4). Эканамічная канструкцыя на "вялікае заданне", упершыню простая чорных a3 сама "кідаецца" ў бой, што з'яўляецца знаходкай, рэдкі прыём у галоўным варыянце і дакладная гульня ва ўсіх разгалінаваннях (6,5 ачка па змесце): dg5 (g7) h6 (f6 A) hg5, ab2, cd2, cd4, b2, ab6!, e3#. A (b2) a3, eg5 ac1, c5-e3, ab2. Далей ідзе "вугал Бярэзнягоўскага": cd2!! (c1 B) ab4, f2, e3, e1#. B (d4) f2!, e3, e1#.

**2.Белыя:** b2, d2, e7, f2, f6, дамкі b8, c1, c3, f4, g3 (10). **Чорныя:** a5, b4, d8 (3). Добрая трохварыянтная задача з філіграннай гульнёй і нячастым спалучэннем замыканняў (6 ачкоў): bd6 (c7 A) b8, d4, c5, g7, g5, de3, h2#. A (a3) g7, de3 (b4 B) a5, h6, db4, d4, ce3, e5, c3, c1#. B (g7) h8, hc3, h6, he3, h2#.

**3.Белыя:** b2, d4, e3, h2, h6, дамкі a1, c1, d6, e1 (9). **Чорныя:** a7, f6, f8, дамка h4 (4). Выключнае спалучэнне фіналаў і свежасць гульні дазваляюць ацаніць задачу ў 5,5 ачка, не зважаючы на нікчэмныя шурпатасці: hg3, e7 (b6 A) d4-c5, e3, c3, g7#. A (g7) f8, d6-c5, ba3, g7/h6, b4/c3, f4, ab2#.

**4.Белыя:** a1, c1, e1, g3, g5, дамкі d4, e5, f4, f6 (9). **Чорныя:** a5, b4, h6 (3). Усяго другая задача з такой блакіроўкай чорных шашак, але, на жаль, у ёй шмат перастановак хадоў (4,5 ачка): ab2 (c3 A) g1, d6, b2, c1, b4, b2, c3#. A (a3) h8, d6, fe5 (a1) ef2, de3, b2, h2#.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ, майстар спорту.**

---

**МАЛАВЯДОМЫЯ ФАКТЫ**

# Таямніца магілы Максіма Багдановіча

*Любімы паэт беларусаў Максім Багдановіч памёр ад сухотаў удалечыні ад Радзімы — у Ялце. З абставінамі смерці і месцам пахавання паэта звязаны пэўныя таямніцы, як і з усім нядоўгім жыццём паэта. Так, існуе шэраг маладомых фактаў, якія тычацца магілы ў Ялце.*

Пахаваны паэт быў паводле праваслаўнага абраду з удзелам святара і псаломшчыка — пра гэта сведчыць знойдзеная ў 1990 годзе супрацоўніцай ялцінскага гісторыка-літаратурнага музея З.Лівіцкай метрычная кніга сабора Аляксандра Неўскага з запісам пра смерць Максіма Багдановіча.

У "Матэрыялах да біяграфіі Максіма" (1923 г.) бацька паэта, Адам Багдановіч, пісаў так: *"Памёр ён 25(12) мая 1917 года, але я паведамленне пра гэта атрымаў на 4-ы дзень пасля яго смерці. Ён не даў гаспадыні майго адрасу, не жадаючы мяне трывожыць. Пасля яго смерці яна знайшла мой яраслаўскі адрас і тэлеграфавала па гэтым адрасе, а пакуль прыйшла тэлеграма з Яраслаўля (бацька паэта знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы ў Сімферопалі. —* **Аўт.**), *быў ужо чацвёрты дзень. Я адразу на аўтамабілі накіраваўся ў Ялту. Але ён быў ужо пахаваны.*

*Пахавалі яго на Ялцінскіх могілках, што недалёка ад Мікалаеўскай вуліцы ў накірунку гор, на самым ускрайку могілак ля дарогі з супрацьлеглага мору боку, г.зн. з боку гор. У галаве пастаўлены белы крыж з надпісам на бляшанай таблічцы яго імя (студэнт Максім Адамавіч Багдановіч) і калі ён памёр. У дзвюх сажанях па прамой лініі ад галавы пахаваны студэнт Карысан. Паведамляю як некаторую прыкмету".*

Але ў той жа час бацька паэта адзначаў: *"Месца абрана надзвычай няўдала: ліўні і патокі з крутога схілу лёгка маглі размыць магілу. Я наняў вартаўніка, каб магілу ўмацаваць і ўпарадкаваць, пакінуў грошы гаспадыні, каб пасадзіць кіпарысы і куст ружаў, прасіў сачыць за гэтым двух знаёмых, у тым ліку і дачку майго саслужыўцы, асабістую знаёмую Максіма, але ці зроблена гэта — не ведаю. Праз некалькі дзён я паехаў з Крыма. Двойчы я пісаў з Яраслаўля знаёмым, але не атрымаў адказу: вядома, як дзейнічала ў гэты час пошта, ды і людзям было не да чужых магіл".*

Пэўны час магілай Максіма Багдановіча ніхто асабліва не цікавіўся. А ў 1924 годзе Інбелкульт накіраваў у Ялту трох маладых паэтаў: Уладзіміра Дубоўку, Анатоля Ажгірэя і Андрэя Александровіча, якія мусілі адшукаць магілу Багдановіча, каб да 10-х угодкаў смерці ўстанавіць на ёй помнік. Працэс пошукаў апісаны Дубоўкам у артыкуле "На Багдановічавай магіле" (часопіс "Узвышша", № 2, 1927).

Паводле ўспамінаў Уладзіміра Дубоўкі, на гарадскія ялцінскія могілкі яны трапілі 18 жніўня 1924 года: *"Зацікавілі вартаўніковых сыноў, якія ўзяліся дапамагаць шуканню. Прыйшлі на другі дзень, 19 жніўня. Хлапчукі прынеслі нам таблічку з жалобным надпісам, але крыжа няма... Аказалася, хлапчукі адрывалі таблічкі ад крыжоў і коўзаліся на іх з каменнай гары, па адхоне гары. Ці варта вінаваціць іх? Гэта было адзінай забавай іх. Не пакрыўдзіўся б на іх і нябожчык, які меў такое замілаванне да маладога жыцця.*

*Знаходзім магілу, пра якую казаў Я.Дыла (верагодна, магіла студэнта Карысана. —* **Аўт.**). *Але навокал яе таксама магілы з паламанымі крыжамі. Урэшце, падабраўшы з зямлі планку, праверыўшы самыя дробныя дэталі, спыніліся ля шуканага. У правільнасці не магло быць ніякага сумневу.*

*У тым жа часе далі тэлеграму ў Менск, каб прыслалі грошы на пастаноўку помніка. Гэты помнік стаўляў ужо Цішка Гартны паводле свайго праекту, бо мы павінны былі ехаць дахаты. Перад ад'ездам сфатаграфавалі магілу, каб пасля не прыйшлося шукаць нанова. Таблічка ад магілы з жалобным надпісам і негатывы фатаграфіі перададзены намі Інстытуту Беларускай культуры".*

20-я гады мінулага стагоддзя былі эпохай атэізму, таму стары крыж на ялцінскай магіле быў знішчаны, а на ягоным месцы з'явіўся помнік з шэрабрунатнага вапняку з чырвонай зоркай, які і стаяў там да 2003 года. А ў 2003 годзе на магіле паэта быў устаноўлены помнік скульптараў — бацькі і сына Льва і Сяргея Гумілеўскіх. Помнік, дарэчы, так сабе... і падабаецца далёка не ўсім прыхільнікам творчасці Максіма Багдановіча.

**Паліна БЯЗРУЧКА, www.euramost.org**

---

**ВІНШУЕМ!**

## *Прэмія за «Вострую Браму»*

Штогадовай літаратурнай прэміяй "Гліняны Вялес" за 2005 год узнагароджаны Сяргей Дубавец за кнігу эсэістыкі "Вострая Брама". Чарговы лаўрэат быў абвешчаны Таварыствам вольных літаратараў.

"Гліняны Вялес" уручаецца штогод пачынаючы з 1993 года за лепшую беларускую мастацкую кнігу года. Пераможцу вызначае экспертная рада літаратурнай прэміі, у склад якой уваходзяць вядомыя беларускія літаратары. У гэты раз яны выбралі адну кнігу з шортліста, у які акрамя твора С.Дубаўца ўвайшлі яшчэ чатыры: зборнік эсэ Вінцэся Мудрова "Ператвораныя ў попел", проза Югасі Каляды "Галоўная памылка Афанасія" і Алеся Наварыча "Літоўскі воўк", а таксама паэтычны зборнік Наталлі Кучмель "Імгненні".

Па традыцыі, уручэнне "Глінянага Вялеса" адбудзецца ў сакавіку ў Музеі беларускага кнігадрукавання ў Полацку.

*"За гады свайго існавання наша прэмія не згубіла сваёй значнасці, але змяніла змест,* — сказаў адзін з лідэраў Таварыства вольных літаратараў Алесь Аркуш. — *Зараз у "Глінянага Вялеса" іншыя мэты. Мы стараемся адзначаць ужо не альтэрнатыўную літаратуру, а больш кансерватыўную, якая і складае падмурак для развіцця культуры. Таму і ў шорт-ліст сёлетняй прэміі ўвайшлі састалыя аўтары, якія ўжо шмат гадоў плённа працуюць у літаратуры".*

Сёлета адбудзецца ўручэнне і яшчэ адной літаратурнай прэміі, заснаванай Таварыствам вольных літаратараў — "Важкая цагліна". Яна прысуджаецца за значны ўнёсак у беларускую літаратуру. Паводле слоў А.Аркуша, гэту прэмію атрымае паэт Янка Сіпакоў. Дагэтуль "Важкая цагліна" ўручалася толькі аднойчы. Першым яе ўладальнікам стаў Адам Глобус.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

---

**МАХЛЯРСТВА**

## *Насурочылі*

**У міліцэйскіх зводках УУС Брэсцкай вобласці апошнія некалькі дзён зноў фігуруюць махляркі, якія здымаюць "суроکі" з даверлівых грамадзян. Больш за паўгода ў рэгіёне не было чутно пра падобныя злачынствы.**

Як паведамілі БелаПАН у аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС аблвыканкама, 13 студзеня ля аднаго з дамоў па Партызанскім праспекце абласнога цэнтра да 25-гадовай жыхаркі горада падышлі дзве незнаёмыя жанчыны (на выгляд 30 і 40 гадоў) і прапанавалі зняць surokі. Махлярскім шляхам яны завалодалі 3845 доларамі ЗША і 1800 еўра. Апамятаўшыся праз 25 хвілін, ахвяра — галоўны бухгалтар аднаго з таварыстваў з дадатковай адказнасцю — звярнулася з заявай у Маскоўскае АУС Брэста.

Днём раней ля дома па вуліцы Дружбы ў Кобрыне таксама дзве невядомыя жанчыны пад маркай зняцця сурокаў выманачылі ў вучаніцы 8-га класа адной са школ горада 108 тыс. рублёў, 22 долары ЗША, 7 украінскіх грыўнаў і два залатыя вырабы. Пра гэта паведаміла ў Кобрынскае РАУС маці 14-гадовай дзяўчынкі.

Па гэтых фактах распачаты крымінальныя справы па частцы 1 артыкула 209 Крымінальнага кодэкса (махлярства).

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

---

**СИТУАЦИЯ**

# Вот так бутылочка!

***Она обошлась нашедшему ее в 870 тысяч рублей***

Знатоки утверждают, что судебное решение по этому уголовному делу, принятое перед Новым годом судом Ленинского района Бреста, уникально не только для Бреста, но и для всей Беларуси. Речь идет о незаконных сделках с ртутью, или о действиях подпадающих под статью 333 Уголовного кодекса Республики Беларусь. То, что привычно поблескивает в градусниках, стало выгодным для сбыта товаром. За килограмм опасного для жизни жидкого металла в городе над Бугом сегодня можно заполучить от 50 до 150 "баксов".

...Обвиняемый К. летом прошлого года пошел по грибы в окрестности деревни Печки Малоритского района. Насколько была успешна "тихая охота", известно только ему. Но из материалов уголовного дела очевидно, что он нашел в лесу пластиковую бутылочку с жидким веществом серебристого цвета. Как потом показала экспертиза, веществом оказалась 95-процентная ртуть. Забрав с собой заманчивую находку, любитель грибов спрятал ее в укромном месте — у дороги. Бывший военный смекнул, с чем имеет дело. Он сразу понял, что ртуть можно с выгодой продать. Через какое-то время познакомился с неким Георгием, скупщиком цветных металлов. Тот ему сразу сказал: *"Неси ко мне все, что в руки попадет"*. Тогда К. перевез заветную бутылочку на территорию неработающего домостроительного завода. Договорился встретиться с купцом у гостиницы "Беларусь". Когда прибыл в назначенный час, его взяли под белые ручки сотрудники отдела по борьбе с организованной преступностью и коррупцией. Можно сделать вывод, что он находился, выражаясь милицейским языком, в оперативной разработке, то есть его "пасли". А в цепочке посредников находился Георгий, ветеран МВД.

Версия о происхождении бутылочки со ртутью такова. В начале 90-х годов некий водитель возил туристические группы из России в Польшу. Вот тогда-то один из туристов оставил ему ртуть "на сохранение". Так она и лежала у него в брестском гараже. Года три назад один из клиентов, который ремонтировал у него свое авто, попросил бутылочку со ртутью "под реализацию". Покрытой мраком осталась на суде история, как бутылочка оказалась в грибных местах Малоритского района. Как бы там ни было, но есть лицо, преступившее закон, и состав преступления налицо. Тем более что никто из причастных к бутылочке своих прав на нее не предъявил.

На суде обладатель ртути взял все на себя и стал единственным фигурантом в этом неординарном уголовном деле. Суд под председательством Тамары Острейко вынес решение — подвергнуть обвиняемого в незаконной сделке административному штрафу в размере 30 базовых величин, или 870 тысяч рублей! Если бы в суде была доказана причастность к этому делу других лиц, хотя бы потрогавших злосчастную бутыль, то решение суда было бы связано не со штрафом, а с лишением свободы сроком от 2 до 10 лет.

Так что если хочешь собирать грибочки — собирай. И не лезь в бутылку!

**Александр КОВАЛЬЧУК.**

---

**ЗДАРЭННІ**

## *Небяспечная знаходка*

**92 супрацьтанкавыя міны часоў Другой сусветнай вайны былі знойдзены ў Брэсце.**

Непадалёк ад мемарыяла "Брэсцкая крэпасць-герой", побач з дарогай, якая вядзе ад кантрольна-прапускнога пункту "Варшаўскі мост" да Шпітальнага вострава, былі знойдзены чатыры супрацьтанкавыя міны. Як паведаміў БелаПАН начальнік сапёрна-піратэхнічнай групы асобнага батальёна міліцыі ўнутраных войскаў Аляксандр Барценеў, іх знайшлі два падлеткі і праінфармавалі пра небяспечную знаходку супрацоўнікаў музея абароны Брэсцкай крэпасці. Выкліканая імі міліцыя выставіла на месцы здарэння ачапленне. Калі сюды прыбыла сапёрна-піратэхнічная група, то было знойдзена 88 аналагічных мін.

Сёлета гэта першы баявы выезд групы размініравання, у 2005 годзе іх было больш за 150.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

---

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
ФДУП "Смоленский полиграфический Комбинат", 214020, г.Смаленск, вул. Смальянінава, д.1.
Падпісаны ў друк 18.01.2006 у 12.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж: 27 000 экз. Заказ №13383.